Пакуль мы выбіралі прэзідэнта, ПАСПЕЛА САДАВІНА. Не ўпусціце шанц!



# ЛЕТА — гэта фантан жывых сокаў

стар. 6-7

№ 5(111), 1994, ЛІПЕНЬ

# НАБАТ

БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАЛАГІЧНАЯ ГАЗЕТА



## Трыумф Лукашэнкі

***АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ, А ЗА ІМІ — І ПЕРШАЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ З ПЕРШЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ.***

Народ ацаніў шчырасць і рэалізм селяніна са Шклоўшчыны, ягоную здольнасць да кампрамісаў з партнёрамі і ваяўнічасць за інтарэсы народа, або, дакладней, за сваё месца там, дзе вырашаюцца інтарэсы і сам лёс краіны, людзей... Дай Бог яму апраўдаць спадзяванні выбаршчыкаў.

Прэс-канферэнцыя паказала канструктыўнасць меркаванняў і схільнасць да адкрытай спаважнай дыскусіі з журналістамі, дзе між іншым знаходзяць месца і гумар, трапнае слова, жарт. Ахілесавай пятой прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца адсутнасць нацыянальнай платформы. На жаль! Будзем, аднак, спадзявацца, што гэта часовая з'ява.

Выбары прынеслі жорсткае паражэнне Вячаславу Кебічу, а таксама Зянону Пазняку, Станіславу Шушкевічу... Пацярпелі, няйначай, дэмакратычныя сілы. Народ не даверыўся іх лідэрам, і не трэба вініць свой народ у неабачлівасці. Прычына перш-наперш у іх жа саміх. Не сакрэт, што да ўлады яны прыйшлі на чарнобыльскай хвалі і забыліся на свае палымяныя абяцанні. Той і другі. Таму і прыхільнікаў аказалася ў іх менш за ўсё па зоне бедства.

Пазняк не здольны прызнаць сваё паражэнне, свае пралікі, памылкі. Чаму? Бо памыляецца не ён... Заўжды!.. І будзе вельмі прыкра, калі Аляксандр Лукашэнка не выкарыстае надзвычай зручны момант і на справе не пакажа сябе дэмакратам. Сапраўды... А што яму замінае гэта зрабіць?.. "Набат" спытаецца ў прэзідэнта пра гэта на чарговай прэс-канферэнцыі.

Рэспубліканскай экалагічнай канферэнцыяй "Палітыка і выжыванне пад час экалагічнага бедства" падрыхтаваны наказ прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. У бліжэйшы час ён будзе ўручаны адрасату. Хочацца спадзявацца, што А. Лукашэнка ацэніць гэты дакумент і што ў ягонай дзяржаўнай дзейнасці экалогія зойме належнае месца. Дадамо: нягледзячы на тое, што каманда, на якую ён абапіраецца, менш за ўсё стаіць да разумення экалагічных праблем.

То ў добры час!

**В. ЯКАВЕНКА**




## СВЕТ чернобыльской свечи

Валерий БЫСОВ (г. Кричев)

В Краснополье (Могилевская область) открылся историко-этнографический музей. В нем три зала. Один — чернобыльский. Это второй музей в Беларуси с документами Чернобыля. Первый был открыт в Корме на Гомельщине.

На открытие собрались представители Совета Министров, управления культуры области, руководители района. Был и президент ассоциации журналистов-чернобыльцев Федор Гончаров, редактор газеты "Ратуша" из Могилева Алесь Сердюков. На митинге выступали жители. Уроженец отселенной деревни Новоельня, ветеран войны, учитель Николай Петрович Ткачев сказал, что Чернобыль страшнее войны. В зале — документы о трагедии народа. Особенно драматична фотография малыша, которого изувечил Чернобыль. Страшно смотреть ему в глаза...



 *В день открытия музея.*

## КЮСЮ В ГОСТЯХ У СВИСЛОЧИ

Социально-экологический союз "Чернобыль" в очередной, в четвертый раз посетила делегация Движения помощи Чернобылю из Японии. В ее составе Мамору Фукаэ, президент движения, Цуёси Нагира, главный врач больницы "Кёва" г.Ойта, Хацуми Акидзуки, активистка движения...

Делегация провела несколько дней в Молодежном оздоровительном центре "Кюсю-на-Свислочи", открытом полтора года назад при ихнем участии. Здесь гости имели удовольствие пообщаться с детьми переселенцев из Хойникского, Наровлянского, Чечерского и других районов зоны, переехавших вместе с родителями в Минск. Гости передали нашему центру дополнительный датчик к аппарату УЗИ и витамины.

Затем их принимало у себя Мозырское региональное отделение БелСоЭС "Чернобыль". Гости познакомились с работой детской больницы и передали врачам автоматический анализатор крови. Они побывали также в Наровле, сделали вылазку в 30-километровую зону.

Домой японцы возвращались с хорошим настроением. С ними вместе уехала в Японию также врач Мозырской детской больницы Галина Чернышева, которую они пригласили на месячную стажировку.

В планах наших усердных и пламенных партнеров из Страны Восходящего Солнца — дальнейшее укрепление братских уз. С этой целью они намерены организовать в Японии передвижную выставку предметов обихода, прикладного искусства, вывезенных из чернобыльской зоны, картин художника Виктора Шматова, намерены пригласить также на гастроли фольклорный песенный ансамбль "Агмень" из Минска.

**Лидия РАЛЬКО,**
председатель совета
Мозырского регионального
отделения БелСоЭС "Чернобыль"

# ПАЛІТЫКА і ВЫЖЫВАННЕ

## пад час экалагічнага бедства



## Рэзалюцыя рэспубліканскай экалагічнай канферэнцыі (29 чэрвеня 1994 г.)

*Да ліку выяўленчых функцый здароўя адносяцца жывая праца народа, узнаўленне і выхаванне ўсёй ягонай сукупнасці. Варта жалю, але на гэтых трох накірунках адбываюцца спад і дэградацыя.*

*З дакладамі і паведамленнямі на канферэнцыі выступілі: Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, прэзідэнт БелСаЭС "Чарнобыль", Іван НІКІТЧАНКА, член-карэспандэнт АН Беларусі, намеснік старшыні Беларускай сялянскай партыі, Юрый ВАРОНЕЖЦАЎ, кандыдат тэхнічных навук, віцэ-прэзідэнт БелСаЭС "Чарнобыль", Мікалай АРЫНЧЫН, член-карэспандэнт АН Беларусі, Васіль НЕСЦЯРЭНКА, член-карэспандэнт АН Беларусі, дырэктар Інстытута радыяцыйнай бяспекі, Міхаіл МАЛЬКО, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута радыяцыйных фізіка-хімічных праблем, эксперт БелСаЭС "Чарнобыль", Георгій ВАЙТОВІЧ, кандыдат медыцынскіх навук, кіраўнік праграмы разгрузачнай тэрапіі, Эдуард ЗБАРОЎСКІ, доктар медыцынскіх навук, кіраўнік прафілактыкі масавых захворванняў (СІНДзІ), Анатоль ВОЛКАЎ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, Леанід МАСКАЛЬЧУК, кандыдат сельскагаспадарчых навук, кіраўнік праекта БелСаЭС "Чарнобыль" — "Сапрапель", Аляксей МІКУЛІЧ, доктар біялагічных навук, старшыня Беларускай экалагічнай партыі, Валерый ШУМІЛАЎ, кандыдат медыцынскіх навук, прэзідэнт Фонду нацыянальнага выратавання, Святлана БЯСТУЖАВА, кандыдат біялагічных навук, віцэ-прэзідэнт Фонду нацыянальнага выратавання, Яўген КУЛІН, кандыдат біялагічных навук, сябра БСДГ, Уладзімір БЯЛЯЦКІ, намеснік дырэктара бабруйскай сярэдняй школы N 16, Людміла ПЕЦІНА, старшыня Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, Юрый ЖАДОБІН, палкоўнік, начальнік аддзела штаба Грамадзянскай абароны, Уладзімір ЯКУЦЕНКА, генерал-маёр, намеснік начальніка Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, начальнік аператыўнага ўпраўлення, Інакенцій ПЛЮСНІН, падпалкоўнік-інжынер запасу, эканаміст.*

*Прынята рэзалюцыя, якая разам з іншымі матэрыяламі друкуецца ў гэтым нумары.*

**КАНФЕРЭНЦЫЯ** сабралася ў дні найвялікшых выпрабаванняў для беларускага народа, калі крызіс у розных галінах эканомікі, сацыяльнага жыцця і палітыкі адсоўвае на задні план вырашэнне экалагічных праблем, што набылі сваю асаблівую вастрыню пасля чарнобыльскай катастрофы.

Высілкі людзей скіраваны сёння не столькі на стваральную працу, творчыя здзяйсненні, колькі на чаканне нейкіх новых умоў і стасункаў жыцця, на выжыванне ў карумпіраваным свеце, і таму ў цэлым зніжана духоўная і творчая актыўнасць грамадства. Яшчэ і па гэтай прычыне ўзмацняецца ўздзеянне неспрыяльных і шкодных экалагічных фактараў на чалавека.

Насельніцтва многіх раёнаў працяглы час харчуецца забруджанымі прадуктамі мясцовай нарыхтоўкі, і нездарма ў 1990 годзе Вярхоўны Савет аб'явіў усю Беларусь зонай экалагічнага бедства. Небяспека спакваля нарастае.

Ужо цяпер у многіх дзяцей рэгіструюцца змяненні ў сістэме імунітэта, якія могуць прывесці і прыводзяць да аўтаімунных, алергічных і анкалагічных захворванняў.

Ужо сёння масавы характар набываюць адхіленні ад нормы і цяжкія захворванні шчытападобнай залозы, у тым ліку і рак, выразна праследжваюцца анеміі, захворванні страўніка, дыхальных шляхоў. Па чарнобыльскай зоне 250 тысяч дзяцей маюць патрэбу ў лячэнні.

Медыка-дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі характарызуецца ўстойлівым павышэннем агульных захворванняў дзяцей, асабліва ранніх узростаў, а таксама цяжарных жанчын і жанчын дзетароднага ўзросту, павелічэннем частаты паталогій, асабліва па чарнобыльскай зоне.

Каб не падупасці ўсім народам, не дэградаваць і не скаціцца ў нябыт, нам трэба мабілізаваць свае кадры і лепшых вучоных свету на актыўнейшую навукова-даследчую працу на месцы, у Беларусі. Задачу вырашаць сродкі. А яшчэ — іх умелае выкарыстанне. Нягледзячы на тое, што 130 тысяч чалавек адселена, праграма змяншэння ўплыву чарнобыльскай катастрофы на грамадства патрабуе значных адлічэнняў ад нацыянальнага бюджэту на працягу не аднаго дзесяцігоддзя.

Зусім відавочна, што без адпаведнай экалагічнай дзяржаўнай палітыкі ўсіх сацыяльна-экалагічных праблем нам не вырашыць.

Даклады і паведамленні, іх актыўнае абмеркаванне ў спрэчках разлічаны на прыцягненне да нацыянальнай трагедыі ўвагі палітыкаў, урадных структур, вучоных і спецыялістаў, грамадскіх дзеячаў. І менавіта дзеля гэтага канферэнцыя прымае разгорнутую рэзалюцыю:

**1.** Выходзячы з непамернага цяжару эканамічных, сацыяльных, экалагічных наступстваў чарнобыльскай катастрофы, іх драматычнага характару, звярнуцца да Ўрада, Вярхоўнага Савета і прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прапановай у найкарацейшы тэрмін (пакуль дазваляе час) падрыхтаваць і перадаць у Міжнародны суд у Гаазе матэрыялы аб пакрыцці страт Беларусі, прычыненых аварыяй на ЧАЭС, у адпаведнасці з міжнароднымі прававымі нормамі.

**2.** Пакласці сацыяльныя і экалагічныя крытэрыі ў аснову ўсіх гаспадарчых рашэнняў. Абавязковай умовай рэалізацыі эканамічных праектаў павінна быць ацэнка незалежнай экспертызай іх сацыяльных і экалагічных вынікаў.

**3.** Прызнаць дзеянні ўрада на працягу больш чым за восем гадоў пасля аварыі на ЧАЭС непрафесійнымі, непаслядоўнымі і неадпавядаючымі статусу зоны экалагічнага бедства, у якую трапіла ўся Беларусь. Дзеля змянення становішча прапанаваць Савету Міністраў распрацаваць у тэрміновым парадку Нацыянальную праграму аздараўлення з улікам сацыяльна-эканамічных, сацыяльна-псіхалагічных, адукацыйных, асветніцкіх, медыцынскіх і іншых аспектаў.

**4.** Звярнуць увагу Мінэкалогіі і Дзяржкамчарнобыля, іншых службаў Беларусі на надзённасць вывучэння хімічных і радыеактыўных забруджванняў, на неабходнасць стварэння ў 1994—95 гадах сапраўднага і доўгадзеючага маніторынга на гэтыя забруджванні, каб стрымаць далейшае іх распаўсюджванне дзеля захавання нацыі.

**5.** Адзначыць важнасць работы па стварэнні маніторынга прадуктаў харчавання, у мэтах чаго наладзіць комплексную сістэму дзяржаўных і грамадскіх пунктаў кантролю з іх абавязковым бюджэтным фінансаваннем.

**6.** Надаючы выключнае значэнне забеспячэнню насельніцтва чыстымі і багатымі на вітаміны прадуктамі харчавання, прапанаваць ураду і непасрэдна Мінсельгаспроду распрацаваць у тэрміновым парадку рэспубліканскую праграму вытворчасці, эфектыўнага захоўвання і перапрацоўкі садавіны і агародніны, распачынаючы яе рэалізацыю ўжо ў 1994—95 гадах.

**7.** Кіруючыся гэтымі ж мэтамі, канферэнцыя падтрымлівае вучоных, якія працуюць практычна амаль заніпто і дасягаюць выдатных вынікаў у галіне радыёбіялогіі, генетыкі, радыяцыйнай медыцыны, сельскагаспадарчай радыялогіі, экалогіі, сацыяльна-эканамічных праблем, у даследаванні 30-кіламетровай зоны, і лічыць, што такой жа грамадскай і дзяржаўнай падтрымкі варты даследаванні і эксперыменты па аздараўленні глебы з дапамогай сапрапеляў і вырошчванні рапсу на тэхнічныя мэты ў зоне забруджвання радыёнуклідамі.

**8.** Нарастанне захворванняў, справакаваных хімічнымі і радыяцыйнымі забруджваннямі, іх масавы характар, нарэшце, інтарэсы захавання этнасу ў Рэспубліцы Беларусь патрабуюць навукова абгрунтаванай канцэпцыі тварэння і ўмацавання здароўя насельніцтва, што ў сваю чаргу вымагае наступнага:

*а) распрацоўкі і прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб тварэнні і захаванні здароўя насельніцтва Рэспублікі Беларусь;*

*б) уліку ў аздараўленчых медыцынскіх праграмах нетрадыцыйных і народных метадык, натуральнага і прыроднага ўздзеяння на арганізм, гомакібернетыкі і самарэгуляцыі дзеля павышэння ўстойлівасці і надзейнасці арганізма;*

*в) вывучэння працэсу індывідуальнай адаптацыі да неспрыяльных экалагічных фактараў і распрацоўкі мер павышэння ўстойлівасці арганізма чалавека з дапамогай жывых сокаў і бялковага харчавання;*

*г) аб'яднання ў рамках інтэграванай міжнароднай праграмы СІНДзІ намаганняў розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый і фондаў, якія займаюцца аздараўленнем, прыдання гэтай праграме нацыянальнага характару;*

*д) стварэння адзінай дзяржаўнай сістэмы аздараўлення і рэабілітацыі дзяцей, якая б улічвала ініцыятыву грамадскіх арганізацый, спынення бескантрольнага выкарыстання прафсаюзамі сродкаў на гэтыя мэты. Беларусь — зона экалагічнага бедства, і ўсім дзецям, без выключэння, належыць чыстае харчаванне, медыцынскае і фізічнае аздараўленне. Без дзяцей у дзяржавы няма будучыні.*

**9.** Канферэнцыя адзначае станоўчы вопыт, набыты бабруйскай сярэдняй школай N 16 у сацыяльным выхаванні вучняў, стварэнні на базе дзіцячых садоў, гэтай школы і ў цэлым паселішча сацыяльна-педагагічнага комплексу (СПК), у якім зніталаваліся ў адзінае цэлае інтарэсы вучняў, педагогаў, бацькоў.

Улічваючы, што пяцігадовы педагагічны эксперымент у Бабруйску даў станоўчы вынік і падтрыманы Міністэрствам адукацыі Беларусі, што ён уваходзіць у праграму БелСаЭС "Чарнобыль" па ўкараненні ў школах рэспублікі бесперапыннага навучання і выхавання "Экаполіс, культура, здароўе", лічыць неабходным аднавіць СПК як надзвычай важны і выніковы дзяржаўны эксперымент, спынены ў 1993 годзе без пэўных падстаў.

**10.** Прымаючы да ведама гатоўнасць Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пэўным чынам удзельнічаць у выкананні дзяржаўных экалагічных праграм, прапанаваць Міністэрству абароны распрацаваць і ўвесці ў дзеянне з 1995 года праграму экалагічнай падрыхтоўкі воінаў (у адпаведнасці з праектам Закона "Аб адукацыі ў галіне навакольнага асяроддзя", п. 5).

**11.** Прапанаваць кампетэнтным органам краіны распрацаваць праграму пераўтварэння ў 1994—95 гадах падраздзяленняў Грамадзянскай абароны і пажарных падраздзяленняў у Экалагічныя войскі Рэспублікі Беларусь з іх адпаведным статусам, экалагічнай і грамадзянскай падрыхтоўкай, пэўнай аснашчанасцю.

**12.** Перасцерагчы ўрад Рэспублікі Беларусь ад прыняцця праграмы будаўніцтва атамных электрастанцый на Беларусі без грунтоўнага і шырокага абмеркавання вучонымі і спецыялістамі, з удзелам прадстаўнікоў экалагічнага руху. Лічыць, што распрацаваная тайна ў вузкім коле вучоных энергетычная праграма (без рэальнага аналізу прычын і наступстваў чарнобыльскай катастрофы) павінна быць вынесена на абмеркаванне грамадскасці. Давесці, што на будаўніцтва АЭС патрэбна воля народа, пацярпелага ад глабальнай чарнобыльскай катастрофы.

**13.** Разгарнуць незалежны экспертны савет БелСаЭС "Чарнобыль" у аргкамітэт па аб'яднанні вучоных, спецыялістаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і рухаў для выпрацоўкі праграмы выхаду з экалагічнага крызісу.

**14.** Даручыць аргкамітэту падрыхтаваць і прадставіць прэзідэнту Рэспублікі Беларусь наказ канферэнцыі.

**15.** Лічыць мэтазгодным склікаць чарговую рэспубліканскую канферэнцыю "Палітыка і выжыванне пад час экалагічнага бедства" ў другім квартале 1995 года.

**НА ВОСЬМОМ** *году катастрофы в Брянске положено начало уникальной по своему подходу научно-исследовательской и аналитической работе. В системном подходе и анализе материалов брянские ученые, пожалуй, опередили своих беларусских коллег.*

*Об основных выводах рассказывает научный руководитель программы доктор биологических наук В. П. АДАМОВИЧ*

# Наши выводы касаются главного: СТЕПЕНИ ОПАСНОСТИ ЖИЗНИ на загрязненных территориях



Напоминаю в связи с этим, что год назад академик Российского научного центра С.Т. Беляев убеждал, будто полученные новые "надежные данные" о реальных дозах облучения населения в загрязненных районах, возможностях получения чистой продукции, продолжающемся процессе природного "самоочищения" дают, мол, основания говорить "о стадии восстановления и реабилитации практически повсюду на загрязненных территориях. Главной задачей становится восстановление полноценной хозяйственной и социальной жизни на всех территориях России, затронутых чернобыльской аварией".

Академик П.В. Рамзаев пошел дальше. Он потребовал пересмотреть чернобыльское законодательство, предусмотрев в нем обязательность отселения лишь в районах, где ожидается эффективная доза более 100 бэр за жизнь или более 10 бэр ежегодно в течение 10 лет. Отселение при меньших дозах он в том же директивном тоне требует "считать более вредным для здоровья, чем предотвращаемое облучение". Вот к этому "предотвращаемому облучению" и следует-то приглядеться попристальнее: каково оно и в какой мере поддается предотвращению в реальных, а не в академических условиях жизни на пораженных территориях.

Мы проанализировали ситуацию по 34 населенным пунктам всех зон. Оказалось, за годы катастрофы накоплено немало разносторонних наблюдений, которые врозь мало о чем говорили, а будучи сведенными, сопоставленными, обрели новый голос. В городских и районных центрах накоплено немало данных по загрязненности грибов, ягод и мяса диких животных. Стало возможным сопоставить два периода: последний (мы взяли 1990—93гг.) с первым (1987—89гг.), а также с временно допустимыми уровнями (мы взяли даже не последний, более жесткий, а ВДУ-91).

Передо мною таблица. Проследим для примера "поведение" любимого всеми белого гриба. ВДУ-91 для него — $4 \times 10^{-8}$ ки/кг. Этот уровень в зоне 1—5 ки/кв.км превышается в семи процентах проб; в зоне 5—15 ки/кв.км — 32 процента; в зоне 15—40 ки/кв.км — 83, а всюду, где плотность загрязнения выше 40 ки/кв.км, превышение ВДУ регистрируется у всех 100 процентов этих грибов. Как велико превышение? Посмотрим: в зоне 1—5 ки/кв.км активность проб с превышением ВДУ сравнительно невелика: $6 \times 10^{-8}$ ки/кг (то есть в полтора раза больше допустимого). В следующей зоне — $32 \times 10^{-8}$ (то есть в восемь раз); в зоне 15—40 ки/кв.км — $49 \times 10^{-8}$ (или примерно в 12 раз), а вот в наиболее загрязненной зоне — $223 \times 10^{-8}$, то есть в 56 раз! А теперь посмотрим, к чему же дело идет: к самоочищению ли? В зонах 1—5 и 5—10 ки/кв.км, похоже, и впрямь белый гриб постепенно избавляется от избыточной загрязненности по сравнению с первым периодом: в два раза упала средняя радиоактивность. А вот в более загрязненных зонах гриб не справился с гнетом радиации — там, напротив, обнаруживается в последнее время удвоение активности против 1987—89 гг.

Для молока и мяса мы взяли два времени года, так как в пищу скоту идут разные — свежие летом и заготовленные на зиму корма. Уменьшение активности наблюдается и местами — многократное. Но до благополучия далеко, если, конечно, не обманывать себя цифрами усредненными.

Как и следовало ожидать, содержание радионуклидов в "дарах природы" прекрасно коррелируется, то есть согласуется, с содержанием их в самой природе. Так, повышение уровней цезия в грибах и, чернике происходит там, где больше стало его в лесной подстилке. Можно представить, каково будет черничное варенье из ягод, собранных в окрестностях злынковского пос. Сенное, если там в подстилке в сотни раз больше цезия, чем в других местах.

В подворьях частного сектора даже в Новозыбкове нередко радиоактивность верхнего десятисантиметрового слоя почвы достигает $3{,}2 \times 10^{-7}$ ки/кг, а ведь люди держат кур, иную живность, и можно ожидать там повышенного перехода радионуклидов в продукты питания.

Между тем, если заглянуть в официальную отчетность, то мало того, что она рисует "в среднем" картину относительного благополучия, но ведь и рисует разными красками. Возьмем молоко. Если Центр ветеринарной радиологии выявлял в 1993 году во всех семи районах юго-запада в среднем 3,6 процента проб с превышением ВДУ, а в 1994 году — 3,8, то госсанэпиднадзор соответственно только два и 0,8 процента. В мясе первые находили в те же периоды 0,3 и 17,4 процента проб с превышением, а вторые — 5 и 4,4. Подобное же с сеном, овощами и фруктами, рыбой местных водоемов. Тут разнобой вносит и центр "Агрохимрадиология" — у него свои средние показатели. Особенно благополучно выглядит все в материалах, как ни странно, госсанэпиднадзора.

Причина ведомственного самообмана в отсутствии единой методики отбора проб, постоянства участков для ведения систематического контроля. То есть мы должны со всей определенностью признать: и спустя восемь лет отсутствует научная основа мониторинга. Да и нет органа, который бы авторитетно координировал эту работу ведомственных служб. Бывший Госкомчернобыль им не стал...

Следствием такой пестроты обобщений явилась серьезная ошибка доктора биологических наук М.И. Балонова, под редакцией которого вышел в прошлом году "Справочник по радиационной обстановке и дозам облучения в 1991 году..." Он пишет, что при определении доз внутреннего облучения людей авторы исходили из официальных данных. Как пляшут подобные данные, мы только что видели. Удивительно ли поэтому, что, по Балонову, доза внутреннего облучения в относительно благополучном Клинцовском районе в 1991 году составляла 1 миллизиверт (мЗв), а по результатам российско-германской измерительной программы, выполнявшейся в 1991—1992 гг., 5—25 мЗв (то есть 0,5—2,5 бэра). И такому облучению ежегодно подвергается 30—58 процентов взрослого населения в дополнение к тому внешнему облучению, которое ими получено, начиная с 1986 года. А это, судя по последним данным спектроскопии эмали зубов в Клинцовском районе, — 15,3 бэра. Опять-таки в среднем, но имеются отдельные когорты населения, у которых накопленная доза уже приближается к ста.

Если к внешнему облучению прибавить внутреннее (в основном от продуктов питания), то общее за прошедшие с начала катастрофы годы уже втрое превышает тот средний уровень в 10 бэр, который академик П.В. Рамзаев прогнозирует для населения данной территории на всю оставшуюся жизнь.

Важно заметить, что, по данным облздравуправления, исследование зубной эмали восьмисот пациентов вполне согласуется со степенью загрязненности территорий, на которых те проживают. В исследованиях М.И. Балонова,

☞



## Дактары чыняць здзек з чалавека

Тая вестка як з неба звалілася на Аксакаўшчыну: паводле загаду міністра аховы здароўя В. Казакова (N150 ад 5 ліпеня 1994 года), Інстытут радыяцыйнай медыцыны пазбаўляецца сваёй клінікі і на яе базе ўтвараецца Інстытут эндакрыналогіі... На думку некаторых спецыялістаў, рабілася гэта ў пажарным парадку напрыканцы існавання ўрадавай структуры В. Кебіча. Новы інстытут ствараўся "пад прафесара Л. Астахаву" — найбольш прыбліжаную да міністра асобу.

Па-рознаму ўспрынялі вестку супрацоўнікі клінікі, а што да хворых, то многія з іх занепакоіліся: дзе далей яны будуць абследавацца і лячыцца, калі ў Інстытуце радыяцыйнай медыцыны не будзе свайго стацыянара?! Сапраўды, ліквідатары хварэюць не на адзін рак шчытападобнай залозы...

Узбуджэнне было настолькі вялікім, што некалькі чалавек з ліку хворых сталага веку ў знак пратэсту абвясцілі галадоўку. Дарэмна... Адміністрацыя клінікі атрымала над галадаючымі бліскучую перамогу! Датэрмінова, не паспеў і міргнуць, як быў выпісаны са шпіталю Леанід Аляксандравіч Кажарскі, ліквідатар, які трапіў сюды з букетам усялякіх хвароб, — ён нібыта быў зачыншчыкам акцыі пратэсту, а ўслед за ім выпісалі і астатніх: Ніну Эрнстаўну Ганюк, Віктара Цярэнцьевіча Архіповіча з Хойнікаў, Івана Аляксеевіча Нямковіча з Брагінскага раёна. Расправіліся!

Газета "Набат" з гэтай нагоды заяўляе галоўнаму ўрачу клінікі С. Карыцьку рашучы пратэст. Грубае парушэнне правоў чалавека, а тым болей ліквідатараў аварыі на ЧАЭС, не толькі не стасуецца з прафесійным гонарам і гуманнымі прынцыпамі ўрачоў, але і падлягае пад крымінальны кодэкс.

Дадамо, што жорсткасць і маральная глухата — не першы выпадак у сістэме Міністэрства аховы здароўя, на што наша газета ўжо звяртала ўвагу міністра.

*Аглядальнік "Набата"*

разумеется, такого соотношения не будет. Как видим, рождение "дозовой концепции" — следствие непонимания или недооценки значения структуры ландшафта, формирующего в поставарийный период различные по степени радиационно-экологической опасности участки. В наших же исследованиях, дифференцированных по плотностям загрязнения, отмечается явная согласованность, связь между ландшафтной структурой и этой плотностью; между средней активностью продуктов питания, а также кормов и внутренним облучением; между показателями СИЧ и внутренним облучением. А далее следует и зависимость в последствиях: между интенсивностью облучения и процентом клинически здоровых людей; между плотностью загрязнения территорий цезием-137 и послечернобыльским приростом некоторых соматических болезней.

Косвенно можно предположить также на основании исследований, что ослабление общего иммунитета людей происходит одинаково как на территории 5—15 ки/кв.км, так и там, где плотность 40 и выше. А это может означать, что хроническое облучение и малыми дозами для здоровья небезопасно, хотя напрямую с радиацией его и не свяжешь.

Доцентом БГПИ О.П. Москаленко выполнен компьютерный анализ распространенности и активности семнадцати классов болезней в динамике за одиннадцать лет (1981—1992 гг.) по 26 населенным пунктам с различными уровнями радиации. Для наглядности впечатляющего результата приведем пример клинцовской Унечи.

Как видим, наибольшее распространение после Чернобыля получили болезни нервной системы и органов чувств, системы органов кровообращения, органов дыхания, пищеварения, костно-мышечной системы и соединительной ткани. Плотность загрязнения села Унеча — 12,9 ки/кв.км. Загрязнение молока радионуклидами в 1987—89 гг. в среднем превышало позднее установленный ВДУ-91 в 3,5 раза, а максимальное — в 9 раз, а затем в 1990—1993 гг. — в 1,9 раза в среднем и в 9,3 раза максимально.

Подобное же было там и с мясом: от 7 до 17 раз в первый сравниваемый период и 4,5—5,5 раза во второй. Расчеты показывают, что внутреннее облучение только за счет избыточно загрязненных продуктов прирастало здесь на 0,5—2,5 бэра ежегодно, соответственно у 30—51 процента взрослого населения. Должно было это сказаться? Оно и сказалось...

В нынешнем году расчеты по внутреннему и внешнему облучению людей предлагается продолжить, статистически обработать и заложить в компьютерную систему российско-американской учебной программы по принятию решений в конкретных ситуациях. Как известно, такой учебный центр создан в прошлом году в Брянском пединституте.

Закончу тем, чем начал. "Надежные данные", на которые опираются академики, обосновывающие концепцию безопасного проживания на радиационно загрязненных территориях, вовсе не так надежны, как они доказывают. Мало назвать научно некорректным оперирование усредненными показателями для больших территорий в их административных границах, примерами получения чистой продукции в отрыве от оценок здоровья людей, а также смехотворными примерами из жизни Индии, Бразилии и Китая. К слову, примеры эти с безвредными для тамошних людей повышенными уровнями естественного радиофона сотрудники Новозыбковского филиала НИИРГ приводят, умалчивая о том, что недопустимо сравнивать дозу, к которой человек приспосабливался в течение сотен тысяч лет, с дозой чернобыльской. Их коллега А.И. Ильенко из Института эволюционной морфологии и экологии животных показал, что действительно на восьмом поколении в подопытной группе рыжих лесных полевок отпочковалась устойчивая к цезию-137 и 134 группа этих зверьков. Может, и у людей в восьмом поколении появятся такие индивидуумы? Но даже на это уйдут сотни лет...

Предпринятая нами работа предостерегает от поспешных шагов. Требуется продолжение поиска в данном направлении, и мы рассчитываем, что такая возможность брянским ученым будет предоставлена и в нынешнем году.

■

# Как Чернобыль воздействует на человека

ТРАКТАТ

*Публикация кратких научных трудов чернобыльской проблематики — давняя традиция газеты "Набат". Приглашаем в авторы тех, кто нас читает и желает, чтобы также читали его.*

***ВЫВОД** автора трактата: радиационный фактор — лишь один из целой группы факторов, воздействующих на организм. Каковы же другие?*

**Почти семилетний практический и научный опыт изучения последствий аварии на ЧАЭС позволил нам сделать определенные выводы о механизмах вредного воздействия факторов аварии, а также наметить пути реабилитации населения и сохранения здоровья проживающих на зараженных территориях.**

Прежде всего необходимо отметить следующее.

При анализе вредного воздействия нами учитывались две неоднозначные группы населения: это, во-первых, ликвидаторы, получившие определенную дозу облучения в короткий срок в первые дни аварии, и, во-вторых, лица, длительно проживающие на зараженных территориях и подвергающиеся длительному воздействию малых доз ионизирующего излучения.

Господствовавшая до недавнего времени линейно-беспороговая гипотеза повреждающего действия ионизирующих излучений справедлива в значительной степени для больших доз облучения, вызывающих лучевую болезнь; оценка влияния малых доз излучения должна проводиться с позиций теории адаптации как для любого другого средового фактора, когда в реакциях организма преобладающее значение имеют неспецифические механизмы.

Опыт показал, что неверно сводить вредное воздействие на организм последствий аварии на ЧАЭС только к радиационному фактору, который в количественном отношении для лиц, проживающих на зараженных территориях, укладывается в пределы так называемых малых доз облучения; кроме радиационного фактора мощное напряжение механизмов адаптации у лиц, проживающих на зараженных территориях, вызывают: группа факторов хронического психо-эмоционального перенапряжения, группа факторов несбалансированного неполноценного питания и группа факторов хронической недостаточности витаминов (особенно витаминов – тканевых антиоксидантов – С, Е, Р, РР, А, b-каротина и других), а также некоторых микроэлементов.

Механизмы вредного воздействия на организм факторов аварии на ЧАЭС имеют следующие основные закономерности развития адаптивных реакций:

1) Универсальной реакцией любого организма на возмущающее действие одного или группы вредных факторов является повышение энергообразования в клетках адаптивных систем;

2) Повышение энергообразования необходимо для формирования структурного следа адаптации в виде дополнительно синтезированных молекул функциональных белков и нуклеотидов;

3) Человеческая популяция крайне гетерогенна в плане мощности генетически детерминированных механизмов энергообразования, а возможности каждого организма в этом отношении довольно ограничены;

4) Поскольку в ответ на действие любого вредного фактора реакция организма однотипна (необходимо повысить образование энергии), то перенапряжение и срыв адаптивных процессов могут быть достигнуты влиянием одного сильнодействующего фактора или влиянием группы факторов слабой силы, а эффект повреждающего действия будет одинаков или выражаться в одних и тех же клинических проявлениях;

5) Оптимальные условия жизни в самом общем понимании этого термина обеспечиваются оптимальным энергообразованием, в процессе которого образуется оптимальное количество перекисных соединений, являющихся естественными ингибиторами интенсивно делящихся клеток: клеток иммунитета, эпителия желудочно-кишечного тракта, интенсивно функционирующих камбиальных элементов соединительной ткани – фибробластов;

6) Значительное повышение энергообразования при воздействии вредных факторов на организм вызывает синхронное повышение содержания перекисных соединений в клетках и тканях;

7) Избыток перекисных соединений обычно инактивируется антиоксидантной системой, неферментное звено которой составляют витамины С, Е, Р, РР, А, b-каротин, SH-содержащий трипептид глутатион;

8) В процессе длительного воздействия на организм вредных факторов, как это, например, происходит с населением на зараженных территориях, истощаются запасы витаминов антиоксидантного действия, и избыток перекисных соединений начинает повреждать мембраны и рецепторный аппарат прежде всего интенсивно функционирующих и делящихся клеток: клеток иммунной системы, желудочно-кишечного тракта, фибробластов;

9) В результате нарушается физиологическая функция этих клеток и тканей с развитием иммунодефицитов различной степени выраженности и падением защиты организма, возникновением различной патологии желудочно-кишечного тракта, снижением репаративных возможностей организма (плохо или дефектно зарастают раны и т. д.);

10) Одним из проявлений иммунодефицита является нарушение функции естественных киллеров – клеток, осуществляющих противоопухолевую защиту организма в процессе так называемого иммуногенетического надзора, когда естественные киллеры опознают любую мутировавшую клетку как "чужака" и уничтожают ее.

Все закономерности развития дезадаптивных процессов у лиц, проживающих на зараженных территориях, обоснованы фундаментальными исследованиями и имеют фактологическое подтверждение в виде теории возникновения синдрома хронического эколого-профессионального перенапряжения.

Данные заметки не касаются специфических изменений в щитовидной железе в результате "йодного удара", перенесенного населением и особенно детьми в первые дни после аварии на ЧАЭС, хотя синдром хронического эколого-профессионального перенапряжения и здесь формирует теоретическую основу для понимания механизма роста узлов в щитовидной железе, учащения случаев возникновения рака щитовидной железы и учащения аутоиммунных поражений ее.

При изложенных выше закономерностях развития повреждений в организме у лиц, проживающих на зараженных территориях, одним из путей оздоровления является создание условий для восстановления нормальной функции антиоксидантной системы организма, в том числе путем круглогодичной витаминизации поливитаминно-микроэлементными комплексами типа "Глутамевит", "Олиговит", "Ол-амин","Юникап" и т. д.

Необходимо, кроме того, резкое изменение обеспеченности населения зараженных территорий продуктами, определяющими сбалансированность питания, так как энергообразование в процессе полноценной адаптации организма возможно только на основе полноценного питания.

Необходимо дальнейшее проведение работ по снижению невротизации населения как путем использования адаптогенов (женьшень, элеутерококк, левзея, радиола и т. п.), медикаментозных средств, усилий практикующих психологов, так и путем объективного освещения в печати чернобыльских событий и явлений без нагнетания страха и ужасов людьми, несведущими в радиобиологии, непрофессионалами от медицины.

**Александр НОВИЦКИЙ,**
**генеральный директор клинико-диагностического научно-производственного комплекса "ЭКОМЕД-1", доктор медицинских наук, профессор**

*Санкт-Петербург — Хойники*




# Мы падымемся!

Наша Беларусь – цудоўная краіна. Здаўна славіцца яна сваімі крыніцамі з чыстай, празрыстай вадою, густымі шумлівымі лясамі. Хвалююць фантазію бяскрайнія ржаныя палі, лугі, што патанаюць у водары кветак. І людзі, якія жывуць тут,–працавітыя, добразычлівыя.

Не заўсёды на Беларусі было мірна і спакойна. Чорная навала вайны прыходзіла на нашу зямлю, сеючы смерць і слёзы. Але тое, што здарылася вясною тысяча дзевяцьсот восемдзесят шостага года, надоўга запомніцца ўсім.

...Вакол цвіла вясна. Весела зелянелі палі, пасля доўгай халоднай зімы ажылі дрэвы, заўзята цягнула ўгору свае зялёныя лісточкі маладая траўка. Уся прырода радавалася прамяністаму сонейку. Але тады ніхто не ведаў, што сонейка гэта ніколі ўжо не будзе добрым і ласкавым, што ядзерны распад, як на тым сонейку, знішчыць у зоне аварыі ўсё жывое, апаліць сваім гарачым смяротным дыханнем палі, лугі, лясы.

Беларусь, Беларусь... Дзе цяпер твае бяскрайнія ржаныя палі, што золатам блішчаць у промнях сонца? Чаму не чуваць песень дзяўчат, якія вяртаюцца з працы дадому ў вячэрні. час? Над табою ўжо каторы год навісла чорная хмара і не дае спакою.

Няўжо мы яшчэ не налакуталіся? Няўжо больш ніколі не ўбачым светлага блакітнага неба над галавой, ніколі не вып'ем крыштальна чыстай вады з крыніцы і не адпачнем пасля далёкай дарогі ў цяні векавога дрэва? Колькі дзесяцігоддзяў мы будзем чуць плач, стогн, вечную жальбу на Беларусі? Жальбу, якую рэхам паўтараюць апаленыя дрэвы, і скрып, як стогн, незачыненых веснічак апусцелых хат.

Людзі пакінулі свае хаты, збеглі, бо тут маглі быць асуджаны на верную смерць. Але не ўсе. Некаторыя, пераважна сталага ўзросту, якім ужо няма чаго губляць, застаюцца дажываць свой век у зоне аварыі. Вяртаюцца нават маладыя з маленькімі дзецьмі туды, дзе яны нарадзіліся, выраслі, дзе сустрэлі першае каханне...

Шмат гора прынесла аварыя! Хворымі дзецьмі запоўнены бальніцы, анкалагічныя цэнтры. Расце дзіцячая смяротнасць. Хто спыніць гэта?

А колькі гора цярпяць маці, чые дзеці невылечна хворыя! Іх хвалюе далейшы лёс сваіх сыноў і дачок. Чым мы зможам дапамагчы ім?

Часта я чую па радыё і тэлебачанні, як тоненькі дзіцячы галасок просіць, каб яму даслалі грошы на лячэнне цяжкай хваробы за мяжой. Гэта страшна. Слёзы нагортваюцца на вочы, калі чую такое. Не ведаю, як у каго, а ў мяне пасля такога закліку да міласэрнасці першае жаданне – пазваніць па дадзеным тэлефоне, хоць трошкі падтрымаць маральна чалавека, суцешыць добрымі словамі. Можа, ад падтрымкі стане лягчэй, пасвятлее на душы...

Веру, надыдзе такая часіна, і мы падымемся, як кветка падымае з зямлі сваю апушчаную галоўку пасля буры. Так будзе!

**Ала ЧАРВЯКОВА,**
**вучаніца 8-га класа**
**СШ N96 г.Мінска**

# Галасы пакінутых хат

... У той год я пайшла ў першы клас Скараднянскай сярэдняй школы. А нарадзілася непадалёку, у маленькай вёсачцы Патапы Ельскага раёна. Расла побач з прыгожым лесам, які з трох бакоў ахінаў сядзібы... Помню грушу каля бабулінай хаты. Калі дрэва зацвітала, мне, малой, яно здавалася вялікай белай горкай, забраўшыся на якую, можна ўбачыць усе таямніцы вясны...

Ужо восьмы год мы ў вёсцы Скароднае. І мае бабулі атрымалі тут жыллё. Узімку яны жывуць больш-менш спакойна, а вясной, у пачатку лета цягне іх у родныя Патапы. Цягне і мяне. Апошні раз я была там мінулым летам, у самую грыбную пару, памятную мне з ранняга дзяцінства... Першае, што мяне ўразіла, – гэта цішыня. Цішыня ў наваколлі, цішыня ў лесе...

Я зайшла ў родную хату: ціха і пуста. Але што гэта? Чуецца нейкі трэск. Ён нешта нагадвае мне. Што? Ага, гэта ж трашчыць печ, запаленая раніцай. І я нібы бачу гэтую раніцу: я толькі што прачнулася, а бабуля паспела ўжо прынесці з лесу кошык грыбоў. Якая радасць! Пакуль бабуля паліла ў печы, даглядала гаспадарку, я не магла адарвацца ад кошыка. Мне падабалася раскладваць грыбочкі, выбіраць маленькія, з яркімі, бліскуча-карычневымі галоўкамі. Калі ў печы выгарала, бабуля клала туды грыбы: сушыць.

А цяпер печ стаяла халодная, пустая. Я выйшла на вуліцу.

Як пастарэла груша! Зялёныя галіны засталіся толькі з аднаго боку. Нібы старая жанчына накінула хусцінку на галаву, а яна з'ехала ўбок, адкрыўшы сівізну і зморшчыны...

"Што, не пазнаеш мяне? – зашапацела раптам сухое лісце. – Падалася я заўчасна".

У мяне нешта засвярбела ўваччу...

Раней каля кожнай хаты стаялі лавачкі, дзе можна было адпачыць ці проста пасядзець, паслухаць, што кажуць людзі... І мне пачуліся галасы гэтых людзей. Яны гаманілі, нібы спрачаліся. Я прыслухалася: "...Перасяляцца... А куды?.. Навошта?.. Якая кара! За што, Божухна?.. Як родную зямельку пакідаць?.."

Я падышла да хаты дзеда Васіля, былога ўдзельніка Вялікай Айчыннай і грамадзянскай войнаў... Не аднойчы слухалі мы дзедавы "гісторыі". Ён быў паважаным чалавекам у вёсцы... Няма і яго. Жыве ў горадзе Ельску, у кватэры шматпавярховага дома, пабудаванага для перасяленцаў.

А вось і хата маёй другой бабулі, матчынай маці. Каля гэтай хаты калісьці было шмат кветак. Цяпер усё парасло бур'яном.

Мама любіла браць мяне, сваю першую дачку, на рукі. І я нібы зноў чую: "Кветачка мая, хутчэй расці! Будзь шчаслівай і здаровенькай!.."

Матуля марыла, каб я была здаровая. З якім смуткам гляджу зараз на яе, калі яна выпраўляе мяне разам з дзвюма сястрычкамі ў чарговы раз на аздараўленне.

Колькі бяссонных начэй правяла яна каля нашых калысак! Не да сну ёй і цяпер, калі мы едзем за межы нашай краіны. Колькі слёз праліла яна ля бальнічнага ложка, бо мы часта хварэем, асабліва мая меншая сястрычка, якая нарадзілася пасля той сумна і горка вядомай аварыі...

Тата кліча мяне ехаць дадому, ён не дазваляе ісці ў лес. А я так люблю збіраць грыбы!..

Я іду да таты, а ўслед нібы чуецца шэпт: "Не забывай нас! Мы любілі цябе... Жыві і помні!.."

**Наталля ПАТАПЕНКА,**
**вучаніца 8-га класа**
**Скараднянскай СШ**
**Ельскага раёна**

# Як хочацца жыць

Блакітнае неба,
І сонейказзяе!
Чаго яшчэ трэба –
Вясна наступае...

Іскрысты прамень
Датыкнуўся да глебы,
І сокі бруяцца
У рошчыне хлеба.

Як хочацца жыць,
Працаваць, прытуліцца
Да матчынай шчырай,
Ласкавай зямліцы.

Ці можна паверыць,
Што здарадзіла маці?
Ці можа мяне
Зямля ашукаці?

Чаму я размову
Такую вяду?
Бо нельга адвесці
Ад сада бяду.

І нельга наліцца
Крыштальнай вадзіцы.
І нельга умыцца
Бліскавай расіцай.

Чужая зямля,
Чужыя куты,
Калі я вярнуся
Дахаты сюды?

Не ведалі дзеці,
Што чорны Чарнобыль
Надоўга раскіне
Смяротныя промні...

**Таццяна**
**КАХАНОЎСКАЯ,**
**вучаніца 11-га класа**
**СШ N 10 г.Гомеля**

САМ—НАСАМ

# Как на самом деле любить детей

По страницам одноименной книги Росса КЭМПБЕЛЛА (США)

Продолжение. Начало в N 4



**При каждодневном общении с детьми любящий взгляд и нежное прикосновение совершенно необходимы. Они должны быть естественны, действовать умиротворяюще на ребенка, не быть демонстративными или чрезмерными. Ребенок, растущий в доме, где родители щедро одаривают его этими ценными дарами, будет чувствовать себя уверенно и спокойно и с самим собой, и с людьми. Ему будет легко общаться с другими, и, следовательно, он будет пользоваться общей симпатией, и у него будет хорошая самооценка.**

**... Исследования показали, что девочки до года получают в 5 раз больше физической ласки, чем мальчики. Я уверен, что это — одна из главных причин, что с мальчиками до трех лет гораздо больше осложнений, чем с девочками. В психиатрических клиниках США мальчиков в 5—6 раз больше, чем девочек. И это соотношение резко (еще в несколько раз) возрастает у подростков.**

**Очевидно, мальчикам необходимо такое же нежное проявление любви (надо учесть, что часто у мальчиков еще большая потребность), как и девочкам в ранние годы развития. По мере того как мальчик растет и взрослеет, потребность в таком физическом проявлении любви, как объятия и поцелуи, уменьшается, но потребность в физическом контакте остается. Теперь его больше притягивает мужская линия поведения. Вся эта возня, похлопывание по плечу, потасовки, шутливые драки позволяют мальчику демонстрировать растущую силу и ловкость и чувствовать мужскую поддержку отца.**

**По мере того как мои сыновья растут, они все меньше склонны терпеть родительские объятия и поцелуи. Но иногда у них возникает такое желание, и мне**

9

**нужно быть начеку, чтобы не упустить эту возможность приласкать их. А такая потребность в нежности возникает обычно, когда они травмированы (физически или эмоционально), очень устали, больны или когда наступают трудные для них моменты: горе, болезни, страхи перед сном, трудности в школе и т.п.**

**Именно эти существенные для ребенка моменты мы можем использовать для того, чтобы выразить нашу нежную любовь, приласкав и поцеловав его, когда у него возникает потребность в нашей нежности, если ему трудно, плохо и тяжело на душе. Особенно это важно, когда дети растут и взрослеют. В эти минуты ваш ребенок вспомнит то время мучительного пубертатного периода, когда его раздирали противоречия, характерные для подростка: стремление восстать против авторитетов и вступающая в конфликт с этим привязанность к родителям. Чем более трогательная эмоциональная память о детстве у подростка, тем крепче он будет противостоять буре и натиску тягостного периода раздирающих противоречий возмужания. И этих драгоценных возможностей у нас, родителей, совсем немного. У ребенка одна стадия развития сменяется другой, и прежде чем мы осознаем это, возможность дать ребенку то, что необходимо для его эмоционального равновесия, приходит и уходит. Печальная мысль, не правда ли?**

**Что касается физического проявления любви к мальчикам, я хотел подчеркнуть еще одно. Когда малышу 12—18 месяцев, нет ничего проще, чем проявлять нежность и ласку. Однако он растет, и нам все труднее проявлять свои чувства. Почему? Об одной из причин мы уже упоминали. Это ложное предубеждение, что "телячьи нежности" сделают его похожим на девчонку. Кроме того, есть еще одна причина: вырастая, маль-**

10

# ЛЯЧУ ДА ВАС, МАЕ БЯРОЗКІ

ДЗЕНЬ быў не з лепшых: настрой псавала змрочнае надвор'е; мая сяброўка, з якой я збіралася рыхтаваць праграму да вечара, спазнялася, і, у дадатак, я пасварылася з маленькай сястрычкай. Бязмэтнае туляннe з пакоя ў пакой мне надакучыла, і я, неяк міжволі, націснула кнопку тэлевізара. У пакоі загучала сімфанічная музыка. Незадаволена хмыкнуўшы, я наважылася пераключыць. У гэты момант на экране з'явілася адлюстраванне: хаты з забітымі вокнамі, занядбаныя сады і палеткі, пустэча і, нарэшце, калючы дрот, якім абцягнуты сядзібы. На душы стала яшчэ горш. "Напэўна, кадры з ваеннага ліхалецця",– падумалася. Удалечыні з'явілася светлая шыльда з чорнымі кропкамі. Яна імгненна набліжалася, расла. І знянацку ўдарыла бы токам: "Асцярожна! Зона!"

Адразу не выказаць, што адчуваеш, пачуўшы гэтыя словы. У іх – злы лёс маёй Беларусі і роднай вёскі, усіх беларусаў і кожнага паасобку. Колькі ў іх трагізму і несправядлівасці! Тут і няздзейсненыя мары, і згубленае шчасце, і разбітае каханне. І што страшней за ўсё – мацярынскае гора!

Па тэлебачанні паказвалі вёскі Хойніцкага раёна. Мясціны прыгожыя, але закінутыя. Людзі, якія не эвакуіраваны да гэтага часу. Дзіва, але яны не плакалі. Камяк незадаволенасці і болю, які сядзеў да гэтага часу ў горле, яшчэ больш сціснуў яго – і пацяклі слёзы. Слёзы роспачы і жалю. Стала шкада гэтых людзей, сябе, сваіх родных, нават буслоў, якія да гэтага часу вяртаюцца на старыя гнёзды. З кожным годам іх становіцца ўсё менш і менш, як і людзей. Экран паказаў мілы тварык дзяўчынкі. Калісьці яна была падобна да лялькі. А зараз... Зараз яна цяжка хворая, засталося жыць некалькі дзён. А вочкі глядзяць з надзеяй: "Дапамажыце, людзі! Такі цудоўны свет!.." Ды не выпускае са сваёй пашчы Чарнобыль...

Быў час, калі пра яго мала хто ведаў. Цяпер мы ўспамінаем пра атамную трагедыю кожны дзень з болем у сэрцы.

Красавік 1986... Якраз у гэты час наша сям'я пераязджала з хутара Беражок у вёску Карпавічы. Бо ў нас нідзе побач не было ні магазіна, ні дзіцячага садка, куды б можна было ўладкаваць Алёнку. А Карпавічы – вёска вялікая: ёсць і школа, і дзіцячы садок, і магазін. Я больш за ўсіх радавалася пераезду, бо там, дзе мы жылі раней, у мяне не было сяброў, і гэтая перамена прываблівала. Я марыла і чакала, што жыццё цяпер будзе шчаслівейшым і цікавейшым. Памятаю таксама ўстрывожаны мамін твар. Яна гучна размаўляла з суседкай пра нейкую "радыяцыю". Потым супакойвала сябе тым, што мы далёка ад Чарнобыля. Для нас, малых (я збіралася тады ў другі клас), гэта было незразумела, ды і цяпер далёка не ўсе сур'ёзна ўспрымаюць небяспеку Чарнобыля.

А мы радаваліся цёпламу надвор'ю, вясноваму дожджыку, пасля якога пануе такі цудоўны водар свежасці і бадзёрасці. Нам так падабалася гойсаць па лужынах, весела смяяцца, калі кроплі ахіналі цябе мяккім вільготным веерам, пералічваць колеры вясёлкі, зусім не ведаючы, што адбываецца ў "дарослым жыцці". Потым з'явіліся людзі з дазіметрамі – мы любілі сачыць за іх работай. У вёсцы сталі асфальтаваць дарогі, засыпаць смецце грунтам, вывозіць зямлю са школьнай тэрыторыі. Было радасна, што ў магазін пачалі завозіць разнастайныя прадукты харчавання. Цяпер мы гэтаму не надаем асаблівай увагі, бо ведаем, што ад гэтага радыяцыі не паменее. Ды ўжо і прадуктаў "спецыяльных" даўно не завозяць.

У Карпавічах амаль няма здаровых дзяцей. Кажуць, што цяпер нашу вёску зрабілі "чыстай", хаця сем год яна была на карце як радыёактыўная. Лягчэй ад гэтага не стала, а, наадварот, крыўдна. У большасці дзяцей павялічана шчытападобная залоза. "Антыструмін" і іншыя медпрэпараты мала дапамаглі. А колькі дзяцей з малакроўем! Дактары гавораць, што пад уплывам радыяцыі арганізм страчвае імунітэт. Вось і мая сястрычка Алёнка часта хварэе. Вельмі дапамагалі нам паездкі на аздараўленне ў Ялту, Сочы, у санаторый "Саюз", што за Радашковічамі ў Беларусі. Адчуваеш сябе бадзёрым, лёгкім, не баліць галава, няма ламоты ў целе, не хварэеш часта. З'яўляецца шмат новых сяброў. А колькі цікавых сустрэч! Уражваюць краявіды, гістарычныя мясціны. Душа багацее!

Але ні прыгожыя замежныя краіны, ні паўднёвыя пляжы не заменяць мне родную Беларусь. Ёсць у мяне любімы куточак – сведка сакрэтных думак і таямніц. Я іду туды, калі мне вельмі сумна, калі цяжка. Мае бярозкі чакаюць гэтай сустрэчы, дапамагаюць шукаць ладу ў думках, даюць парады. Страшна робіцца, калі ўявіш, што гэты куточак прыгажосці можа знікнуць, што яго забярэ ненажэрны Чарнобыль, як забірае жыццё малалеткаў, як высмоктвае здароўе з дарослых.

Цяпер я перастала ездзіць да дзядулі на Палессе. Бацькі гавораць, што нам хопіць і сваёй радыяцыі. А як цудоўна было там! Колькі клубніц! А зараз... Мясціны пусцеюць, людзі пакідаюць свае гнёзды.

Мы не губляем надзеі. Мы будзем жыць, бо ў нас ёсць запас трываласці, мы – беларусы!

**Наталля КАСЯК,**
**вучаніца 10-га класа**
**Карпавіцкай СШ**
**Вілейскага раёна**

# Па вёсцы ходзяць толькі старыя

Ёсць святы куточак – маленькая, прыгожая вёсачка Вуглы на Брагіншчыне. Там я нарадзілася, там пайшла ў школу, там сустрэла сваё першае каханне. Усё гэта было там. Цяпер я тут, у вялікім горадзе. У Вуглах засталася мая бабуля. Я люблю ездзіць да яе ў госці, і заўсёды сэрца заходзіцца ад хвалявання. Здаецца, нічога не здарылася... І ты едзеш дадому – зойдзеш у родную хату, распранешся, сядзеш каля тэлевізара, пабяжыш да сяброў, а раніцаю, склаўшы ў сумку кніжкі і сшыткі, пойдзеш у школу, дзе гучаць галасы дзяцей, любімая настаўніца праводзіць урок. Пасля заняткаў спартыўная пляцоўка школы і вуліцы вёскі напоўняцца дзіцячымі галасамі. Скончыцца навучальны год, пачнецца доўгачаканае лета. Ласкава-прыветнае сонца ўсіх абагрэе, а рачулка Брагінка прыме ў свае хвалі дзятву.

Так было восем гадоў таму. А зараз? Зараз я еду не дадому, а ў госці. У вялікай двухпавярховай школе не чуваць галасоў, бо ў класах засталося толькі па 3–5 вучняў. І няма там любімай настаўніцы – урокі праводзяць былыя адзінаццацікласнікі ці, зрэдку, настаўнікі, якія пайшлі на пенсію... Пуста і на спартыўнай пляцоўцы – яна забруджана радыёнуклідамі. Па вёсцы ходзяць толькі старыя бабулі і дзядулі. Зрэдку можна ўбачыць дзяцей.

Нельга нідзе і ніколі забыцца на сваю дарагую і адзіную радзіму, свой родны кут. Сніцца ён і былым жыхарам вёскі Вуглы. Прыязджаюць сюды хто на дзень, хто на два. Цягне ў родную хату...

**Алена ХАДАСОК,**
**студэнтка 2-га курса**
**Мазырскага педінстытута**

# Боль не дает мне уснуть

В этот день все было как обычно. Каждый был занят своим делом, мечтая чего-то добиться, сделать свою жизнь лучше, уютней, светлее. И никто даже не мог подумать, что жизнь опрокинулась.

26 апреля... Это событие было каким-то кошмаром для людей, живущих в районе бедствия. Многие не знали, что делать, суетились, срывались на крик. Началась паника. Люди с улицы вбегали к себе домой, брали все самое ценное: детей, деньги, драгоценности. Тихий уголок Беларуси стал похожим на растревоженный улей.

Спустя некоторое время на чернобыльскую электростанцию прибыли пожарные команды и отряды милиции. Именно эти люди первыми приняли на себя страшный удар невидимого противника, и именно они больше всех пострадали.

Вскоре началась эвакуация из района бедствия. Люди плакали, покидая свои дома, оставляя скот. Они покидали свой родной угол, где были устроены, и если бы не беда, могли бы по-прежнему счастливо жить в своих домах, в тишине и спокойствии. Старики, герои Великой Отечественной войны, инвалиды и пенсионеры, заслужившие тихую и беззаботную старость, остались без крова, без денег и, самое страшное, без сил, не хотели переезжать в другое место и под закат своей и без того тяжелой жизни начинать все сначала.

Пожар потушили. Было приложено много усилий, чтобы устранить утечку радиации.

Кто же виноват в том, что было пролито столько слез, что погибло столько людей? Человек! Мы не умеем, а, может быть, и не хотим бережно относиться к природе. Любить и защищать ее, следовать ее законам, законам жизни. Ведь чтобы что-то найти, надо, чтобы кто-то его потерял, чтобы семя выросло, надо хорошая почва, солнечный свет и влага, чтобы у нас не было проблем с экологией, надо любить живой мир, бережно относиться к окружающей среде. Ведь наша жизнь целиком связана с природой, мы зависим от нее, как ребенок зависит от матери. И чем лучше мы относимся к ней, тем лучше наша жизнь.

О взрыве на Чернобыльской АЭС мы никогда не сможем забыть, да нам и не позволят этого сделать слезы матерей и отцов, проклятия стариков и невинные глаза больных детей, смотрящих на жизнь, на нас с больничных коек.

Чернобыль – это наша общая черная боль. Она живет в наших сердцах и порой не дает уснуть, будит воспоминания о тех зловещих апрельских событиях. Мы все пострадали, и это ужасно! Как не плакать, глядя на детей, у которых нет прошлого и для которых невозможно будущее.

Так как же быть?!

**Вася АГЕЙЧЕНКО,**
**ученик 8-го класса**
**СШ N 141 г.Минска**

---

чишки уже не вызывают в нас внутреннего умиления и желания приласкать их. Многих людей 7—8-летний мальчишка своей буйной энергией и живостью раздражает, утомляет, действует на нервы, кажется несносным. Для того, чтобы дать ребенку то, что ему необходимо в эмоциональном плане, мы должны признать в себе эти чувства, преодолеть их и стремиться к внутреннему душевному росту и совершенствованию, чтобы как можно лучше выполнять свои обязанности родителей.

А теперь давайте обсудим, что важно для удовлетворения эмоциональных потребностей девочек. В течение первых 7—8 лет девочки так прямо и непосредственно не реагируют на эмоциональную депривацию, как мальчики. Другими словами, их эмоциональные потребности не так очевидны. Я встречал слишком много детей, страдающих от эмоциональной депривации, и обычно мальчишек легко вычислить — их тяжелое состояние очевидно. Когда глядишь на девочек до наступления пубертатного периода, кажется, что они лучше приспосабливаются к окружающим обстоятельствам и на них меньше действует недостаток эмоционального питания. Но не позволяйте себя одурачить! Хотя маленькие девочки не проявляют свое горе в явном виде, они тяжело страдают, если не имеют достаточной эмоциональной поддержки. Это становится совершенно очевидным по мере того, как они взрослеют, особенно в подростковом возрасте.

Одна из причин — физический контакт. Я подчеркивал выше, насколько жизненно важны активные проявления нежности (обнять, поцеловать, погладить, побаюкать и пр.) для мальчиков в раннем возрасте. Чем меньше мальчик, тем это важнее. При этом для девочек физический контакт (особенно внешние проявления нежности) становится с годами важнее и достигает пика в возрасте 11 лет. У меня сердце сжимается, когда я вижу одиннадцатилетнюю девочку, которая не получает необходимого ей, как воздух, полноценного эмоционального питания. Это ведь критически важный возраст!

ПОЧЕМУ нежное проявление родительской любви так существенно для девочек-подростков? Ответ: им необходима подготовка к юности. Каждая девочка вступает в юность с разной степенью готовности: одни подготовлены хорошо, другие — плохо.

Два наиболее важных момента подготовки девочек: это образ собственного "я" и сексуальной идентичности со своим полом. Давайте подробнее рассмотрим вопрос о сексуальной тождественности у подрастающей девочки. Становясь девушкой, она подсознательно или интуитивно чувствует, что она выдержит бури юности, только если будет уверена в себе. Для девушки жизненно важно чувствовать себя "в порядке", быть девушкой "что надо", "первый сорт", "на все сто", вызывать одобрение и восхищение, быть "о'кей". Если она в возрасте 13—15 лет чувствует себя уверенной маленькой женщиной, то ее юность пройдет относительно безболезненно и спокойно, минуя пропасти и пики треволнений юности. Чем устойчивей и здоровей ее сексуальная идентичность со своим полом, тем лучше она сможет противостоять давлению сверстников, в том числе и сексуальным поползновениям мальчиков. Чем худшего она мнения о себе как о женщине "о'кей", тем менее устойчивой она окажется к соблазнам юности. Чем она больше недовольна собой, чем хуже она оценивает себя как женщину, тем легче ей будет поддаться давлению сверстников (особенно мальчиков) и тем меньше она способна сохранять ценности своих родителей.

**Родители, сделайте своего ребенка сильным! Ваше мощнейшее оружие — безоговорочная любовь!**

***Прочитав страницы из книги известного психиатра, которые мы публикуем с продолжением, вы сможете избежать возможных ошибок.***

***Публикуемые страницы можно вырезать и составить из них книжицу.***

**ЗАГІНУЛА, сышло ў нябыт каля 80 працэнтаў усіх малых рэчак Беларусі, такіх, як мая Гавязнянка. Сёння, здаецца, пад гусеніцы лёг бы таму экскаватару, што кіламетр за кіламетрам, нібы ўдаў, праглынуў рачулку — гэта боскае ўлонне прыроды.**

# За табою не прыйдуць дзеці

● Рэтра-эсэ



● **Раніца.** Хочацца закрычаць ад роспачы і адчаю. Але я не крычу, крыку няма, хоць фізічна яго адчуваю ў сабе. Да болю ў пашчэнках сціскаю зубы. Каб стрымацца, не зайсціся ў дзікім прыступе жалю, урэшце, каб не заплакаць горка-горка.

"Дачушка, пабеглі да рэчкі!" — "Пабеглі!" — "Хутчэй, мая зорка!" — "Бягу ўжо... А дзе яна, тата, далёка?" — "Ды тут, за парогам, дзе сцежка. Яна прывядзе. Ну, хутчэй! Там яшчэ не раскрыўся гарлачык". — "Не бачу я, тата. Не бачу. Няма гэтай сцежкі! І рэчкі нідзе не відаць..."

Немагчыма зміpыцца з думкай, што дзеці т в а е не пабачаць таго, што ў вольнай даступнасці цешыла-насычала т в а ю душу, спаталяла жаданне таямніц, жывіла свет уяўленняў, дарыла асалоду і фарбы. Немагчыма зміpыцца з думкай, што наступнае пакаленне — твае дзеці — пазбаўлена ўнікальнага вопыту зносін з дзікай прыродаю. Прынамсі, у той самай меры, у якой гэта было магчыма для цябе і тваіх аднагодкаў. Што да гэтае меры, то яе абкарнаная за апошнія два—тры дзесяцігоддзі велічыня сёння катастрафічна змяншаецца. Тэмпы дэградацыі павялічваюцца. На месцы райскіх куточкаў прыроды ўзнікаюць так званыя аграпрамландшафты, якія ў лепшым выпадку выглядаюць як абяздушаныя, збедненыя да ўбогасці. У горшым выпадку гэта пакалечаная зямля, выпатрашанае наваколле. На вачах аднаго пакалення адбываецца жудасны прыродазнішчальны віток: знікае рэчка ці возера, гара ператвараецца ў кар'ер, кар'ер — у звалку і гэтак далей.

Ой, рэчанька-рэчанька. Ой, люлі, люлі... Якая б ні была ты малая — а найдзівосны ланцужок райскіх куточкаў Бацькаўшчыны. Не, не ад Бога тыя гаспадары, што стваралі будаўніча-мантажныя калоны, каб глабальныя праекты псеўданавуковай скарапанаўшчыны прывесці ў дзеянне.

Мяне ніяк не пакідае думка і адчуванне таго, што я, нарадзіўшыся пасля крывавай бойні чалавецтва з фашызмам, быў сведкам іншай вайны, у якой ад рук чалавека лілася і льецца кроў роднай прыроды. Я быў сведкам таго, як у яе, безабароннай, перарэзвалі горла, успорвалі яе вены, душылі магутнай тэхнікай, кідалі на глум і здзек. Я сведка, які дагэтуль маўчаў. Але сёння маўчаць не магу перад будучыняй нашчадкаў. Пачуццё страчанага раю не абудзе іх, нашых наступнікаў, абудзіцца ў душах і сэрцах шчымлівым болем і шкадаваннем. Сёння мы намагаемся загнаць іх у пекла, пазбаўляем іх здольнасці з пашанай і ўдзячнасцю глядзець нам услед.

*Нарадзіўшыся пасля вайны, я быў сведкам іншай крывавай бойні — чалавека з прыродаю. Асушаючы балоты, засыпаючы сажалкі, руйнуючы крыніцы, абяскроўліваючы рэчкі, мы — людзі, грамадства — знаходзіліся ў стане вайны з прыродаю. І знаходзімся зараз.*

"Дачушка, пабеглі да рэчкі!.." — "Пабеглі!.." Як сумна і крыўдна і як балюча, што гэта ўжо толькі мроя.

● **Зноў** успамін. Сонца пакуль невысока, але промні ўжо порстка прабіваюцца скрозь алешнік. Я сцішана сачу за паплаўком. Зроблены з гусінага пяра ды бутэлечнага корка, ён нерухома стаіць у цянётах яшчэ дрымоткага плёсу, бліжэй да процілеглага, амаль недаступнага для чалавечай нагі берага. Пранізаная маладым святлом, шчыльная навісь алешніку ў павоях дзікага хмелю ззяе найтанчэйшымі адценнямі зялёнага. Там, дзе ў патаемнай лучнасці сыходзяцца бераг і плёс, яшчэ раскашуе ранішні прыцемак.

Шчаслівы той, хто аднойчы пабачыў, як роўна і ціха ляжыць на вадзе цень. Густы і цёмны ў першыя гадзіны дня, ён лагаднее з кожнай хвілінай, спакваля набіраючы ласку летняга неба, цяпло і прамяністасць. Усё больш сонца. Залатыя астраўкі-плямкі, якімі сям-там акроплена паверхня вады, — квінт-асэнцыя раніцы, сапраўдны рачны флёр. На іх выбягаюць пагрэцца павучкі-плывунцы, вадамеры. Асцярожна праплыве міма плотка — блісне срэбным бачком, крануўшыся промня.

Цень пакрысе саступае, вось ужо палова роўнядзі адкрыта сонцу і небу. У празрыстае ўлонне акунулася першая аблачынка. Прыляцела аднекуль страказа са слюдзянымі крыльцамі, села на вуду. Загараючыся на промнях-астраўках, сплывае з аселых прырэчных куточкаў рэдзенькі туман. Нястомна ціўкае птушка ў крынічным алешніку. Асеў на расу крык гусінай чарады. Дзень напаўняецца гукамі.

Я падцягваю свой корак-паплавок бліжэй, на сярэдзіну рэчкі, але часу не застаецца, каб спраўдзіць сваю апошнюю надзею,— мяне клічуць дадому: сняданак гатовы.

● **Дваццаць** гадоў, як няма Гавязнянкі. Следам, дарэчы, не стала і назвы мястэчка Гавязна, паселішча з 400-гадовай гісторыяй, якое дало імя самой рэчцы. Менавіта ў тутэйшых ваколіцах рэчка развінала берагі, у яе плёсы глядзеліся макаўкі мясцовага храма. Наіўна думаць, што паміж варварскай меліярацыяй і хваляй "тапанімічнай рэвалюцыі" няма сувязі. Ёсць! Малакультурны чыноўны люд, пераважна не маючы каранёў на беларускай зямлі, але маючы хворую свядомасць першапраходцаў (лічы, заваёўнікаў), імкнуўся паўсюдна навесці парадак (лічы, бязладдзе), засведчыць абнаўленчую місію сваёй бязглуздай прысутнасці.

Абвостранае пачуццё да родных мясцін, асабліва адчуванне нязмерных, а часам незваротных стратаў, якія церпіць наша прырода, нашы ландшафты, пахілілі мяне гадоў колькі таму да мары прайсці ўверх па рэчцы аж да яе вытоку. Дзе ён, цуд-пачатак Гавязнянкі, на якім кіламетры ад майго дому, у якой навакольнай акрасе-дэкарацыі, пад якім небам? Думка пра будучую вандроўку ўсё больш вярэдзіла сэрца, а з набліжэннем лета і чарговага адпачынку і пагатоў выходзіла на першы план. Падрос, падужэў і мой сын Цімох. На дванаццатым годзе цікавасць да падарожжаў у яго, праўда, не абудзілася, але прапанову пайсці разам са мною прыняў з ахвотай. Мы выбралі дзень, так падпала, што гэта было акурат назаўтра, як мне споўнілася сорак два, і з самай раніцы рушылі ў дарогу. Спрыяла цудоўнае надвор'е. Свяціла сонца. З поўдня павяваў сустрэчны ветрык. Адным словам, стаяў пачатак добрага жніўня.



● **Наш дом** на пагорку з кожным дзесяткам крокаў аддаляўся, разам з ім і града ліпаў пры балоце. І яблыні саду рабіліся больш выразнымі і мініяцюрнымі. Гэткай жа, нібы на далоні, выглядала з акна хаты разора канала, паўз якую мы зараз ішлі, абгінаючы дзе-нідзе лапіны густой непралазнай жыгучкі-крапівы. Калісьці тут рэчка, бы торба з горба, кацілася, паблiскваючы, уніз. Высокае месца звалася грудам. Ён прымыкаў да самай рэчкі, утвараючы ля вады абрывісты пясчана-глеісты бераг. На гэты бераг сыходзілася ды з'язджалася купацца моладзь з бліжэйшых вёсак — Ахрэмавіч, Петухоўшчыны, Кучкуноў, часам і з самога мястэчка. Месца было разлогае, з другога боку да самай вады падступаў добры пойменны луг, за ім палоскаю збажыны жаўцела поле, далей за дарогаю пачынаўся Замковы лес. Груд, колькі помню, быў выпасам для кароў ды шчодрым пастаўшчыком торфу для вяскоўцаў на зіму. На старых тарфяных копанках, што заставаліся пасля распрацовак, добра разводзіліся карасі, у зарасніках травы гнездаваліся птушкі.

"Ды гэта ж петухоўскія копанкі", — раптам прамовіў я, азіраючыся навокал. Цімох зразумеў маё здзіўленне. Пад наском кеда ляжала, быццам рассыпаная, тарфяная крошка, сям-там сцёртая ў іржава-рыжы пыл. Крыху далей, у забалаці, дзе паднялося-закусцілася вербалоззе, у траве пакрэктвала самотная птушка. Я прыкленчыў. Быццам разгорнуты буквар, ляжаў перад намі не сцёрты шматгадоваю арацьбою кавалачак прырэчнай зямліцы. Літары, словы паўставалі нібы з забыцця. І ўсё да болю знаёмае. Вось трава гусіная лапка, мяккая і густая, — зялёны пух зямлі. Вось крываўнік — тысяча лісцікаў — у духмяных кветкавых вяночках. Тут і буслікі чарадою, і яркія свечкі зарніцаў, і піжма-красуня, і важны асот. Грыўка шаўковай цёмна-бліскучай травы — не ведаю, як называецца,— запрашае прысесці... Адшчыпваю па каліву з кожнай расліны і складваю ў далоні няхітры суплёцік з лісцяў. Дзякую, жыццё, за свята. Для душы, для вачэй, для сузірання таго, што жывым заставалася ў адкладах памяці, і раптам гэткае рэальна жывое, у тым жа даўнім дзівосным спалучэнні-суседстве — нібыта ўваскрэсла, ачнулася ад шматгадовага сну, заяснела ў промнях сённяшняга дня, сённяшняга, не вынішчанага да дна, зялёнага ўлоння. Хоць рэшта, слядок, напамін — а грэе і спаталяе душу.

Абгінаючы канал-стрэлку, параўняліся з пастухом, што падрэмваў, лежачы ў траве. Разгаварыліся. Стары петуховец успомніў, як у карчах блізу нашай сядзібы ўся акруга — і петухоўцы, і кучкуноўцы, і цярэскаўцы — лавіла ў рэчцы ракаў. До-о-брых ракаў. "Золата, не рэчка была. Бальшавікі нічога не пакінулі", — махнуў пугаўём. На гэтым і развіталіся.

*Калі глядзець адтуль, ад вытоку маёй Гавязнянкі, з рэчышча забітай рэчкі, дзяржава, дальбог, выглядае монстрам. Толькі ўдумацца ў звыклыя абрэвіятуры — ПМК, БМУ... Прыродазнішчальная машына стваралася ў навукова-даследчых інстытутах, міністэрствах, у высокіх кабінетах улады, на самым высокім стратэгічным узроўні.*

*Заканчэнне будзе.*



***П**рысвячаю рэчцы Гавязнянцы... Напісаў і задумаўся: ці былі прысвячэнні накшталт гэтага? Не ведаю, не прыгадаю. Думаю, што былі. Бо я не першы на зямлі, хто як маці і бацьку абавязаны роднай рэчцы, лесу, ваколіцам, на ўлонках якіх адбылося-прайшло дзяцінства, мінулі дні, сплеценыя ў гады.*

*Вось і мая чарга падышла. Прамаўляй, не маўчы. Рэчкі няма, засталіся словы, якіх ніхто не адыме. І ёсць памяць, ёсць успаміны. Увайдзі ў харомы тых дзён, калі рэчка жыла, цякла паміж долаў — стагоддзі, а можа, і болей. Ты яшчэ акунуўся ў яе струмені, напіўся яе прахалоды, убачыў на вадзе сваё аблічча-адлюстраванне. За табою не прыйдуць дзеці, унукі твае. Хіба што ў сне, у казцы, у мроі...*

***Даведка:** Рэчка Гавязнянка. Левы прыток Нёмана. Даўжыня каля 20 кіламетраў. Працякае па тэрыторыі Нясвіжскага і Стаўбцоўскага раёнаў. Знішчана меліярацыяй узору 60—70 гадоў XX стагоддзя.*

***Валерый ДРАНЧУК***
*Малюнкі аўтара*

НАБАТ
Выдаецца Беларускім сацыяльна-экалагічным саюзам "Чарнобыль" ад сакавіка 1991 года.

Галоўны рэдактар Васіль ЯКАВЕНКА.
Над нумарам працавалі:
Валерый ДРАНЧУК (рэжысура, дызайн), Алена МІМРЫК (адказная за выпуск), Аляксандра ГОДЗІНА (кампутарная вёрстка), Святлана ЛАЎКЕТ (набор).

*Месца рэдакцыі:*
220048, г.Мінск, вул. Мяснікова, 39.
*Тэлефоны:* 20-39-04, 27-84-20,
факс (0172) 71-58-19
Кошт у Беларусі 300 руб.,
за межамі краіны — па дамоўленасці.

Нумар падпісаны ў друк 21 ліпеня 1994 г.
Заказ N5.
Індэкс 63132.
Наклад 10 000 асобнікаў
Друкарня выдавецтва
"Беларускі Дом друку".

Н 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12